Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

• №49 (85) ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ • 6-12 снежня 1996 года • Цана 1500 руб.



- Мама нарэшце атрымала зарплату. Купіла нам кілаграм бананаў і падпісалася на газету.

У нашым рэгіёне падпісацца на "РГ" можна да 25 снежня.

**Кошт падпіскі: на паўгода - 48 тыс. руб., на квартал - 24 тыс.руб., на месяц - 8 тыс.руб.**

## Па трабуюцца на работу

*ВІЛЕЙКА. Цэнтр занятасці насельніцтва паведаміў аб вакансіях на 5 снежня:*

рэгуліроўшчык (5), мантажнік (5), інжынер-электроншчык (1), станочнік (3), бульдазерыст (1), інжынер-тэхнолаг (1), сталяр (3), акумулятаршчык (1), токар (1), качагар (2), муляр (2), газаэлектразваршчык (2), даярка (5).

*Тэл. для даведак 54113*

# 85% насельніцтва рэгіёна інфіцыравана на туберкулёз!

*Сярод людзей, якім за сорак, гэты паказчык сягае 100%.*

*Чытайце інфармацыю на 2-й стар.*

*Паважаныя пасажыры!*

Пры набыцці білетаў для праезду па чыгунцы Расіі неабходна прад'яўляць пашпарт, або іншае пасведчанне асобы. Дзецям да 16 год– пасведчанне аб нараджэнні.

*Адміністрацыя чыг. станцыі Маладзечна.*

**Затрымана**

*Смаргонскім пагранатрадам ад пачатку года:*

57 парушальнікаў мяжы, з іх 53 афра-азіяты;

кантрабанды на 21 млн. рублёў і 8 тысяч 507 літаў;

260 кг нержавеючай сталі;

150 кг дражджэй;

1 тона цукру;

каля 1 тоны журавінаў.

**Прапушчана праз мяжу**

316178 чалавек,

95900 адзінак аўтапранспарту.

## Адным абзацам

❑У сталіцу прыбыла група экспертаў амерыканскага кангрэсу. На працягу некалькіх дзён яны правядуць кансультацыі з дыпламатамі і палітыкамі з мэтай вывучэння цяперашняй сітуацыі ў Беларусі. Існуе вялікая верагоднасць прыняцця амерыканскай палатай прадстаўнікоў і сенатам папраўкі, што ўвязвае эканамічную дапамогу са свабодай слова, сходаў, прадпрымальніцтва і г. д. Калі такая папраўка будзе прынята, яна будзе тычыцца не толькі міждзяржаўных адносін, але і кантактаў па лініі прыватнага бізнесу.

❑У гэтыя дні ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры праходзіць III турыстычная біржа Інтэртур-96. Больш за 100 фірмаў з Беларусі і 24 іншых краін прадстаўляюць інфармацыю аб месцах адпачынку, відах абслугоўвання, турысцкім рыштунку, страхаванні турыстаў; пройдуць тэматычныя семінары.

❑Зрываецца перарэгістрацыя юрыдычных асоб і прыватных прадпрымальнікаў, у некаторых рэгіёнах перарэгістравана толькі 100 суб'ектаў гаспадарання. У выніку вялікага аб'ёму тэхнічнай работы па экспертызе дакументаў, што паступаюць, Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый выходзіць з прапановай у кіраўніцтва працягнуць тэрмін перарэгістрацыі да ліпеня 1997 года.

❑Прэзідэнт РБ аб'явіў аб павелічэнні памеру мінімальнай заработнай платы з 1 студзеня на 30%. Па папярэдніх дадзеных, гэта прывядзе да павелічэння сярэдніх заробкаў настаўнікаў на 9-15%, работнікаў аховы здароўя– на 10-16%, работнікаў культуры– на 10-15% г. д. З 1 снежня гэтага года павышаныя на 10% пенсіі, аднак іх выплата адкладзена на апошні тыдзень года– з 25 па 31 снежня. А. Лукашэнка таксама пацвердзіў выплату ўсім работнікам бюджэтнай сферы аднаразовай прэміі за IV квартал у памеры 500 тысяч рублёў, дзве трэці з якой будуць выплачаныя да 25 снежня. Прэзідэнтам "рэкамендавана" кіраўнікам прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці выплаціць таксама і трынаццатую зарплату. Цэны павышацца не будуць, акрамя цэнаў на бензін, гарэлку і малочныя прадукты.

❑Ужо 17 снежня пачне сваю работу першая сесія Палаты прадстаўнікоў, на якой плануецца разгледзець перш за ўсё тыя законапраекты, якія былі падрыхтаваны Вярхоўным Саветам, а таксама праект закона аб бюджэце краіны на наступны год.

❑На мінулым тыдні, 27 лістапада, адбыўся кангрэс прадстаўнікоў дэмакратычных сіл, які сабраў больш за 200 чалавек. На ім быў створаны Беларускі камітэт абароны дэмакратыі. Старшынёй яго абраны С. Шарэцкі.

❑Днём правоў чалавека аб'яўлена 10 снежня. На Беларусі яшчэ толькі ідзе працэс фарміравання механізму судовай абароны гэтых правоў, а нацыянальная праграма па абароне правоў чалавека знаходзіцца ў стане распрацоўкі.

❑На сённяшні дзень ва ўрадзе краіны застаецца свабоднай вакантная пасада прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, якую займаў Міхаіл Чыгір. У інтэрв'ю БелТА Аляксандр Лукашэнка сказаў, што на гэтай пасадзе ён хацеў бы бачыць працавітага чалавека, які прыйшоў з выканаўчых органаў улады. Кандыдатуры банкіраў больш разглядацца не будуць.

❑Ва ўсім свеце адбываецца дэмаграфічны выбух: у канцы XX-га стагоддзя на Зямлі з'явіцца шасцімільярдны жыхар, а ў сярэдзіне наступнага стагоддзя колькасць жыхароў планеты складзе 12 мільярдаў. Але Беларусь– выключэнне, бо пакуль што смяротнасць у нас перавышае нараджальнасць. Таму дабрачынны Фонд абароны жыцця ў яго вытоках і генетычнага коду народа выступіў ініцыятарам правядзення ў Мінску з 10 па 13 снежня I міжнароднага сімпозіума па дэмаграфічных праблемах рэспублікі.

❑29-га лістапада ў прэзідэнта адбылася нарада, на якой абмяркоўваліся праблемы прамысловых прадпрыемстваў горада Маладзечна, у тым ліку завода парашковай металургіі, станказавода, адкрытага акцыянернага таварыства "Электрамодуль" і іншых прадпрыемстваў. Як сказаў кіраўнік дзяржавы, фінансавая дапамога, па магчымасці, будзе аказана толькі тым прадпрыемствам, якія выпускаюць канкурэнтназдольную прадукцыю. На нарадзе было выказана таксама меркаванне аб неабходнасці распрацоўкі комплекснай праграмы па вываду прадпрыемстваў горада з крызіснай сітуацыі.

❑У выхадныя дні ў гарадскім пасёлку Радашковічы адзначыла сваё 50-годдзе мясцовая бібліятэка.

❑На 5 гадзін спыніўся ў панядзелак рух цягнікоў у напрамку Маладзечна-Мінск. Пад Аляхновічамі сышла з рэек цыстэрна нафтаналіўнога саставу. Яшчэ адна атрымала прабоіну– частка мазуты з яе выліласа.

## Навіны

### Нашчадак Агінскіх у Залессі

*СМАРГОНЬ. Да месца, дзе жыў і працаваў вядомы кампазітар Міхал Клеафас Агінскі, цягнуцца краязнаўцы, прыхільнікі яго таленту. Апошнім часам Залессе наведваюць літоўцы і палякі.*

Наведаў гістарычнае мястэчка і прапраўнук старэйшай дачкі кампазітара Амеліі пан Анджэй Залускі, 65-гадовы жыхар Лондана. Пан Анджэй ў мінулым таксама музыкант. Размаўляе на англійскай, французскай, польскай мовах. Цяпер піша кнігу пра вядомага продка. Ужо напісаны 12 раздзелаў. Наступныя 4 будуць прысвечаны Залессю.

Анджэй Залускі праводзіць даследчую работу. У Маскве знайшоў амаль не даследаваны архіў кампазітара. Са Смаргоншчыны завітаў у Беларускую дзяржаўную філармонію. Яна рыхтуе оперу Міхала Агінскага "Зеліс і Велькур або Напалеон у Каіры".

*Альберт КУМІШЧА.*

### А бульбу ў шакаладзе каштавалі?

*МЯДЗЕЛ. Свята восені ў Вузлянскай базавай школе праводзіцца штогод, але па розных сцэнарыях. Творчай фантазіі і дзецям, і настаўнікам не займаць. Святочна ўпрыгожанай была не толькі спартыўная зала, дзе звычайна праводзяцца масавыя мерапрыемствы, але і ўся школа.*

На "багатуху" запрасілі бацькоў і бабуляў, якія змаглі паказаць сваё майстэрства хатніх гаспадынь. На прысуд удзельнікаў выставілі сотні страў з бульбы. Там можна было пачаставацца галушкамі, хворастам, клёцкамі, дранікамі, піражкамі і нават бульбай у шакаладзе.

Дэманстравалася гародніна, вырашчаная пры дапамозе дзяцей. А калі што спадабаецца– можна і набыць за сімвалічную плату. У праграме былі песні, танцы і конкурс "Міс-восень".

*Яніна БУГЛАК.*



### Загуляліся. У выніку– вяселле

*АШМЯНЫ. У цэнтры дзіцяча-юнацкай творчасці прайшоў конкурс закаханых пар. Спаборнічалі "Рамэа і Джульеты" мясцовыя, а таксама госці са Смаргоні ды Ашмянаў.*

Пераможцамі "Восеньскай сустрэчы" сталі Каця Маліноўская і Дзіма Попчанка з Ашмянаў.

Перамога ў конкурсе можа ператварыцца і ў рэгістрацыю шлюбу. Да яго дагуляліся, да прыкладу, пераможцы 1994 года Аксана Кетрыс і Аляксей Шукеловіч.

*Наталля РАБЧАНКА.*

### Няпоўнагадовы Адысей

*ВАЛОЖЫН. Раніцой шасцігадовы івянчанін Дзмітрый Ахрэм пайшоў у школу, і больш у гэты дзень яго дома не бачылі. Не на жарт устрывожаныя бацькі кінуліся ў міліцыю.*

Дзесяць дзён працягваліся пошукі. Нехта ўспомніў, што малалетні пасажыр ехаў у аўтобусе ў напрамку Стоўбцаў, далей шлях яго згубіўся. Малога ўцекача вылавілі на трасе, рухаўся ён у бок Брэста да граніцы.

Хлопчык моцна ўзлаваўся на дзесяцігадовага брата, які адабраў у Дзімы машынку і 2 тысячы рублёў. Цяпер штодня парушальнік бацькоўскага спакою прыгадвае новыя і новыя эпізоды сваёй "адысеі".

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Вольнае слова падтрымліваюць

*ВАРШАВА. Фонд Польска–Чэшска–Славацкай Салідарнасці сваю дзейнасць распачаў у 80-я гады. На мэце ставіліся развіццё і падтрымка "дысідэнцкіх" ідэй, ідэй вольнасці.*

У пачатку 90-х адбылася змена курсу, дзейнасць пашыралася на Усход. У Польшчы гэта ці не адзін з фондаў, які не раздзяліўся, хаця адзінства было няпроста захаваць.

Сёння Фонд праводзіць фестывалі, дні культуры розных краін. Яго старшыня Яраслаў Шастакоўскі расказаў, што апошнім часам ствараюцца спецыяльныя праграмы для Усходу, вялікая ўвага надаецца журналістам, якія і ствараюць грамадскую думку ў сваіх краінах.

Выдаўцы і газетчыкі многіх краін СНД добра ведаюць кіраўніка праграмы Катажыну Краеўскую. З яе дапамогай многія змаглі пабываць у рэдакцыях варшаўскіх газет, сустрэцца з польскімі выдаўцамі, камп'ютэрнымі графікамі.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

### Нахабныя суседзі

*ВАЛОЖЫН. Лістападаўска-студзеньскі сезон палявання на пушных звяроў у раёне эксперыментальны. Адзінай на Міншчыне Валожынскай паляўнічай гаспадарцы ў некаторых дачах дазволена паляванне ва ўсе дні тыдня.*

Відавочна, гэта дадасць клопатаў егерам, якім, акрамя выканання асноўных абавязкаў, даводзіцца яшчэ і змагацца з браканьерствам. Больш за 30 пратаколаў на парушальнікаў правілаў палявання і рыбнай лоўлі складзена мясцовымі егерамі ад пачатку года.

Каля 70 працэнтаў тых, хто браканьерствуе ў валожынскіх лясах і на вадаёмах– "госці" з Маладзечаншчыны, якія паводзяць сябе вельмі нахабна. Для іх не існуе тэрмінаў палявання, залішнім лічаць і набыццё пуцёвак.

Вось і два апошнія выпадкі затрымання парушальнікаў ва Узбалацкай паляўнічай дачы звязаны з жыхарамі суседняга раёна. У першым егеры затрымалі дваіх з кампаніі, што спрабавала загнаць лася. Яшчэ два нязваныя госці лавілі рыбу забароненымі метадамі.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

### Дапамагае нямецкі талісман

*МАЛАДЗЕЧНА. Нямецкі конь "Гоша"– быццам вартаўнік на ўваходзе ў гарадок цэнтра эстэтычнага выхавання падлеткаў. Заходзяць дзеці і першай справай на яго– гойсаюць, пакуль не стомяцца. А "Гошу" што– ён жа з дрэва.*

Конь яшчэ і талісман. З яго з'яўленнем пашырыўся гарадок (да 3-х абсталяваных памяшканняў), з'явіліся новыя формы работы (харэаграфічная студыя, школа сямейнага выхавання дзяўчынак).

Але найбольшай папулярнасцю карыстаецца інтэлектуальная гульня "Зразумей мяне". Праводзяць яе за грошы– па 3 тысячы з удзельніка і гледача. І жадаючых дастаткова. Спаборнічаюць па нядзелях. Камандам дарослых і дзяцей трэба перамагчы ў пяці сустрэчах, а тады для пераможцаў– шыкоўны вечар адпачынку.

За 5 тысяч можна паўдзельнічаць у "Дні імянінніка". Для дзяцей свята распісана да сакавіка. А дарослыя могуць зрабіць заказ на любы час. І ў перспектыве, выклікаць "брыгаду" да сябе на прадпрыемства ці кватэру.

*Аддзел інфармацыі.*

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-47.*

## Спіс асуджаных у Асобай Нарадзе на 25-е снежня 1940 г. па УНКУС Вілейскай вобласці.

*Гэты спіс падрыхтаваны да друку на падставе дакументаў, якія захоўваюцца ў філіяле Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці ў Маладзечне, супрацоўніцай архіва Наталляй Івановай.*

1.Анкуда Антон Васільевіч- 8. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
2.Айзедман Карл Эмануілавіч- 9. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
3.Анашка Іван Пятровіч- 9. 7. 40 г.- 5 гогд ВТЛ- ст. Котлас
4.Аношка Віктар Усцінавіч- 9. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
5.Алюбовіч Іван Юр'евіч- 5. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
6.Абрамовіч Вітольд Іванавіч- 5. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Салікамск
7.Ананька Мечыслаў Юльянавіч- 19. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
8.Абалевіч Альберт Юзавіч- 13. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
9.Арбцэвіч Мордух Вульфавіч- 27. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
10.Абрамзон Насон Шмуйлавіч- 23. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
11.Александровіч Антон Стан.- 9. 7. 40 г.- 3 год ВТЛ- ст. Архангельск
12.Айштэйн Мовша Лейбавіч- 23. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
13.Арэнт Стэфан Мартынавіч- 20. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
14.Андрыловіч Антаніна Мікал.- 19. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ
15.Андруконец Вікенцій Антон.- 10. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Безымянка
16.Андруканец Паўліна Казім.- 15. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
17.Ананьчонак Уладзімір Андр. - 10. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст.Безымянка
18.Анімуцкі Антон Казім.- 19. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
19.Адахоўскі Бенедыкт Іос.- 19. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Поцьма
20.Ахрановіч Іван Іосіф.- 19. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
21.Агееў Фёдар Фёдаравіч- 1. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
22.Адахоўская Ганна Міхайлаўна- 19. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Поцьма
23.Адахоўскі Іосіф Бенедыкт.- 19. 8. 40 г. - 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
24.Адамец Станіслаў Юзэф.- 27. 6. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
25.Адзінкевіч Антон Іванавіч- 212.8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
26.Астрановіч Антон Андр.- 21. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
27.Адахоўскі Вікенцій Генр.- 27. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- г. Варашылаў
28.Айзенман Карл Імануілавіч- 9. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
29.Адамовіч Іосіф Сцяпанавіч- 19. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
30.Амбрус Нікадзім Ігнатавіч- 6. 5. 40 г.- 5 год ВТЛ- г. Архангельск
31.Аляксеева Палагея Акім.- 19. 8. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Поцьма
32.Антановіч Вікенцій Емяльян.- 17. 8. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
33.Акочанка Вікенцій Іосіф.- 13. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
34.Астык Франц Іванавіч- 26. 6. 40 г.- 8 год ВТЛ- г. Архангльск
35.Анжаеўскі Тадэвуш Ігн.- 26. 6. 450 г.- 8 год ВТЛ- г. Архангельск
36.Аўгусціновіч Уладз. Міх.- 27. 6. 40 г.- 8 год ВТЛ- г. Архангельск
37.Адамец Станіслаў Юзэф.- 27. 6. 40 г.- 3 гады ВТЛ- г. Котлас
38.Антановіч Рамаіл Віцэнт.- 21. 6. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
39.Аўгусціновчі Фелікс Франц.- 2. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- г. Краснаярск
40.Андрыеўскі Зянон Іванавіч- 25. 6. 40.- 5 год ВТЛ- г. Архангельск
41.Андрушкевіч Іван Іосіф.- 25. 6. 40 г.- 5 год ВТЛ- г. Архангельск
42.Арановіч Хаім Калманав.- 27. 6. 40 г.- 5 год ВТЛ- г. Архангельск
43.Абялевіч Абе Лейбавіч- 27. 6. 40 г.- 5 год ВТЛ- г. Архангельск
44.Адамовіч Браніслаў Ігнатав.- 29. 6. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
45.Арэнт Стэфан Ігнат.- 20. 6. 40 г.- 5 год ВТЛ- г. Архангельск
46.Актановіч Мечыслаў Іосіф.- 25. 11. 40 г.- 3 г. ВТЛ- ст. Сома Каганаў
47.Бобін Браніслаў- 2. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
48.Барышэўскі Канст. Канст.- 9. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
49.Буяліч Антон Ягоравіч- 9. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
50.Баравы Іван Атнонавіч- 9. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
51.Бітавід Антон Эдуардавіч- 2. 7. 40- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
52.Баброўскі Пётр Антонавіч- 2. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
53.Бромберг Она Абрам.- 9. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
54.Багера Адам Фёдаравіч- 9. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
55.Бергер Якуб Ісакавіч- 9. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
56.Барне Станіслаў Мікал.- 10. 11. 39 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
57.Бейнар Тадоўс Раманав.- 9. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
58.Барон Станіслаў Антон. 23. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
59.Бяляўскі Іван Еўламп. - 22. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- Сеўжэлдорлаг
60.Буран Павел Паўлавіч- 13. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
61.Богінаў Рыгор Ігнатавіч- 19. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
62.Бурдко Павел Аляксандр.- 19. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
63.Буклеят Станіслаў Франц.- 13. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
64.Баркоўскі Станіслаў Уладз.- 29. 6. 40 г.- 5 год ВТЛ- г. Архангельск
65.Бакшанская Леанора Іосіф.- 23. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Поцьма
66.Белавус Аляксей Аляксеевіч- 23. 7. 40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
67.Барташэвіч Восіп Ванцэтавіч- 19. 7 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
68.Багдановіч Адольф Вікенцьевіч- 23. 7. 40- 8 год ВТЛ- ст. Поцьма
69.Броўкін Іпаліт Мартынавіч- 13. 7. 40- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
70.Беразоўскі Восіп Казімір.- 13. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
71.Баран Леакадзія Франц.- 19. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Тэмлаг
72.Бабышка Канстанцін Іосіф.- 19. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Поцьма
73.Безуковіч Ігнацій Ігнатавіч- 19. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
74.Бяроза Іван Міхайлавіч- 23. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
75.Брэцкі Іосіф Абрамавіч- 19. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
76.Блажэвіч Віктар Станіслав.- 19. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
77.Багданёнак Аляксандр Пятровіч- 27. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
78.Бехаген Пельта Анохавіч- 13. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
79.Боўшыс Канстанцін Усцінавіч- 26. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
80.Бартушэвіч Аляксандр Уладз.- 27. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
81.Браўн Герш Мендзелевіч- 10. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Безымянка
82.Бушмовіс Фелікс Адамавіч- 10. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Безымянка
83.Баярунец Гелярыя Барысаўна- 17. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Маршанск
84.Баярунец Бярнард Селвестр.- 17. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
85.Батура Восіп Міхайлавіч- 6. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- г. Архангельск
86.Банашэўская Марыя Аляксандр. 23. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
87.Бітэль Пётр Іванавіч- 13. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
88.Бакун Браніслаў Антонавіч- 21. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
89.Бергель Франя Уладзіславаўна- 21. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Поцьма
90.Бурак Іван Іосіфавіч- 21. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
91.Барысеўская Алена Франц.- 21. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Поцьма
92.Бараноўскі Юзеф Паўл.- 19. 7. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
93.Бухан Міхаіл Аляксандр.- 28. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
94.Бароўскі Іпаліт Аляксандр.- 6. 8. 40 г. - 3 гады ВТЛ- г. Архангельск
95.Бачэліс Нікадзім Нікадзім.-0 6. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- Жытомір. Ітка
96.Беенка Іпаліт Уладзіслав. 19. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
97.Барсуль Станіслаў Мацвеевіч- 19. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
98.Белаводскі Рафаіл Янкелев.- 17. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
99.Баброўскі Лявон Антонавіч- 10. 8. 40 г.- 5 год ВТЛ- ст. Безымянка
100.Бальгунас Браніслаў Восіп.- 26. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
101.Бяркоўскі Юдэль Новахав.- 26. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
102.Блажэвіч Эдмунд Феліксав.- 26. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
103.Бурэнь Мікалай Трыфан.- 26. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
104.Бурлакоў Лазар Максім.- 30. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Енісей
105.Блузман Іосіф Пятровіч- 30. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Енісей
106.Барцішэўскі Мар'ян Іван.- 21. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
107.Бука Казімір Канстанцін.- 21. 8. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас

*Працяг будзе*

# 85% насельніцтва рэгіёна інфіцыравана на туберкулёз!

***МАЛАДЗЕЧНА. У шматразова судзімага Уладзіміра з вёскі Скавародкі ці не дзесятак дзяцей. Прыйдзе з турмы да жанчыны, зробіць дзіцё, нашкодзіць і зноў за краты. Вернецца ўжо да іншай.***

Уладзімір хворы на туберкулёз. На волі лячыцца не хоча. За гарэлкай няма часу, ды і на перспектыву думае. Чым на нарах, лепш у турэмнай бальніцы цягнуць тэрмін. Да чарговай адседкі паспеў заразіць сухотамі прыёмнага сына-падлетка і дачушку, якой усяго 2 месяцы.

Не прыняты такі закон, каб туберкулёзнікаў ізаляваць і лячыць прымусова. Некаторыя адмаўляюцца– тэрмін лячэння 1 год. І паміраюць. Паспяваючы заразіць блізкіх і проста знаёмых. За гэты год выяўлена і пастаўлена на ўлік у горадзе 28 хворых, у раёне– каля 20 (па дадзеных гарадскога дыспансера). У асноўным, гэта людзі 30-40 гадоў, беспрацоўныя.

Усе мы інфіцыраваныя. Каталізатарам хваробы выступаюць стрэсы, дэпрэсіі, работа ў начную змену, служба ў арміі, розныя вірусныя захворванні– карацей, усё, што падрывае арганізм маральна і фізічна. Аб знаходжанні чалавека ў турме можна і не гаварыць. 7 "зэкаў" вярнуліся дамоў (у горад) хворымі.

Штогод выяўляюць да 300 дзяцей, якія заінфіцыраваныя. Сёлета, дзякуй Богу, з іх ніхто не захварэў– хваробу папярэдзілі.

У Міністэрстве аховы здароўя ёсць "план" па захворванню. На тысячу гараджан могуць захварэць 32,6 чалавека. Калі па выніках года паказчык будзе перавышаны– амаль суд Лінча мясцовым медыкам. За цёмных людзей думаюць светлыя галовы. Не жартую. Бо нас усіх прымушаюць раз у год праходзіць флюараграму. Можа, дзесьці за мяжой палічылі б гэта гвалтам асобы. Там ахова здароўя платная і ўсе клапоцяцца аб сваім здароўі самі. Нас жа павінны прымушаць. Хвароба перадаецца праз паветра, посуд... Як засцерагчыся? Застаецца адно: нібы тых сіфілітыкаў, ізаляваць. Прымусова, калі чалавек сам не хоча лячыцца. З выяўленых хворых, як правіла, 2-3 адмаўляюцца. Таму і патрэбны закон.

Ёсць думка, што інфіцыраваных і хворых у горадзе з'явіцца значна больш. Дыспансер, які робіць флюараграмы і ставіць дыягназ, пераязджае (па афіцыйных дадзеных) за горад, на тэрыторыю інфекцыйнай бальніцы. Дабрацца цяжэй, нязручна. Наогул, ці паедуць туды людзі?

*Васіль САВІЦКІ.*

# На каленях пакуль што

*бачыць сваё прадпрыемства дырэктар.*

***СМАРГОНЬ. Першую прадукцыю завод аптычнага станкабудавання выпусціў 21 год таму. А за ўвесь час існавання– 18 тысяч адзінак аптычнага абсталявання, каля 400 -- металарэжучага. Адзіны па профілю ў былым Саюзе, меў заказы (93% прадукцыі ішло ў Расійскую Федэрацыю), рабочыя выходзілі ў дзве змены, працавалі і па суботах, нядзелях. На пачатку 90-х сітуацыя пачала змяняцца ў горшы бок. І ў 94-м сем намеснікаў кіраўніка ВА завод аптычнага станкабудавання паставілі міністру ўльтыматум– мы, ці генеральны дырэктар. Таго знялі. А праз пяць месяцаў звольнілі і намеснікаў разам з новым генеральным. З таго часу ўзначальвае аб'яднанне Баляслаў Тамашэвіч.***

– Калі вобразна– мы ляжалі. Цяпер стаім на каленях. У канцы кастрычніка прадпрыемства наведаў прэм'ер-міністр (цяпер былы ўжо) Міхаіл Чыгір. Пад канкрэтнае развіццё вытворчасці мы прасілі крэдыт у 10 мільярдаў рублёў. Дапамаглі нам ліквідаваць чатырохмесячную запазычанасць па зарплаце. Дзеля гэтага аб'яднанню пералічылі 2 мільярды 831 мільён. І сёння яшчэ разлічваемся з работнікамі за кастрычнік. Пазычаем у дзяржавы грошы, а на складах за 6 гадоў прадукцыі на 17 мільярдаў.

***— Звычайна ў такой сітуацыі ўсе работы ў невытворчай сферы спыняюцца.***

– Вырашана пакуль закансерваваць недабудаваны корпус на 17,5 тысячы метраў. Недабудаваны дзіцячы садок па вуліцы Маладзёжнай перадаем выканкому. Спарткомплекс з басейнам– "Камунальніку". Дакументацыю на будоўлю 219 катэджаў таксама перадаем выканкому.

***— Калі гаворыце "канкрэтная вытворчасць", што маеце на ўвазе?***

– Мы сканцэнтраваліся на трох напрамках. Выпуск станкоў для рэзкі кварцу, коштам 14 тысяч долараў ЗША кожны. Пяць станкоў ужо адправілі ў Расію. Дагавор заключаны яшчэ на 10. Адправілі 5 эксперыментальных масленых помп на Мінскі трактарны завод. Пройдуць выпрабаванне– за снежань выпусцім 100. Наогул плануем за месяц рабіць тысячу помп. А Мінск можа купляць да 27 тысяч у год. І прапрацоўваем выпуск этыкеровачнай машыны, якая адразу наклейвае на бутэлькі 4 этыкеткі з усіх бакоў. Ёсць вопыт. Кошт такой машыны, праўда, італьянскай вытворчасці, 100 тысяч долараў. Калі дзяржава падтрымае гэтыя асноўныя напрамкі, будзем есці хлеб з маслам. Без падтрымкі будзе цяжэй, але ўпэўнены– вытрымаем.

***— Геаграфія збыту тая ж– у асноўным, Расія?***

– Наша служба маркетынгу "прачасала" тэрыторыю ад Южнасахалінска да Брэста. Акрамя гэтага завязаліся з кітайцамі, амерыканцамі. Праўда, быў у нас зрыў. Сёння ў Канадзе працуе наша сумеснае прадпрыемства. Шчыра, ні рубля ад яго не атрымалі. Яшчэ 4 гады таму ў Канаду адпраўлены 3 вакуумныя ўстаноўкі. Адну там "фірмач" прадаў за 90 тысяч канадскіх долараў. І з намі не разлічыўся. Што зробіш– вучымся на памылках.

***— Работнікаў завода чакае скарачэнне?***

– Максімальная колькасць работнікаў была 4300. Сёння іх каля 2 тысяч. Некаторыя пасады даводзіцца скарачаць і адначасова запрашаем на работу новых людзей. Новая прадукцыя, бывае, патрабуе і новых спецыялістаў.

*Васіль САВІЦКІ.*

Крымінал

## Па-суседску

***ВІЛЕЙКА. На жаль, ідылія ў суседскіх адносінах бывае рэдка.***

Жанчыну, якая жыве па вуліцы Горкага, пазбавіў запасаў прадуктаў, мыла, пральнага парашку сусед з двума памагатымі– раней судзімымі.

Гараджаніну з вуліцы імя Каралёва даспадобы прыйшлася суседава машына. Залез у гараж і пачаў здымаць запчасткі з "Жыгулёў". І трэба так здарыцца, што гаспадар разам з сябрамі завітаў сюды. Злодзей быў рады супрацоўнікам міліцыі, якія пазбавілі яго ад раз'юшаных мужчын.

*Аддзел інфармацыі.*

## Восень: лічаць трупы

***ВАЛОЖЫН. Сумны "ураджай" атрымалі супрацоўнікі міліцыі: усяго за тры лістападаўскія дні ў раёне былі выяўлены аж чатыры трупы. Адзін з іх знайшлі жыхары прыватных дамоў, што стаяць на беразе Валожынкі, прама ў рэчцы.***

Жыхару Ракава С. Трамбіцкаму смяротную нажавую рану на вуліцы нанес раўнівы аднавяскоўец.

Для жыхара вёскі Жураўцы К. Цаюна месцам гібелі стала меліярацыйная канава, дзе ён захлынуўся вадой, бо знаходзіўся ў добрым падпітку.

Чаму вырашыў звесці рахункі з жыццём жыхар Забрэззя В. Грыбоўскі, пакуль невядома, але сродкам самагубства вопытны паляўнічы абраў уласную стрэльбу.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

## Чачня: хто ваюе, а хто і гандлюе

***АСТРАВЕЦ. Надвячоркам 26 лістапада паблізу вёскі Рымуні былі затрыманы два грамадзяніны Чачні, якія, прыхапіўшы з сабой сумкі, спрабавалі трапіць у Літву. Матывавалі яны свае паводзіны тым, што ў іх краіне ідзе вайна, а жыць усё ж трэба. І дадалі, што да вёскі Лоша іх падвёз мясцовы жыхар на ўласным аўто.***

Гора людское можна зразумець, але, відавочна, не такімі яны былі і беднымі, бо пры сабе мелі ажно 9280 долараў ЗША, 400 марак, 2 мільёны беларускіх рублёў і 1900000 расійскіх. Жыццё наша дасканала, як відаць, зразумець нельга, бо кожнаму сваё– некаму трэба праліваць кроў, а хтось і гандляваць павінен.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

## Не спаў у шапку

***АСТРАВЕЦ. У краіне працвітае хвароба, якая завецца наркаманіяй. Адныя дзень і ноч не знаходзяць сабе месца, пакуль не "сядуць на іглу", другія, пакуль не накурацца, а трэція жывуць па прынцыпу жыхара райцэнтра Л.***

Ён цэлае лета не спаў, што называецца, у шапку, а збіраў, шчыруючы па вясковых агародах, макавую саломку. І так удала ішоў бізнес, што неўзабаве набраў яе ажно 858 грамаў і думаў, паклаўшы ў "цёмны кут" у кватэры, што зімаваць будзе пры грашах. Але памыліўся, бо на парозе з'явіліся супрацоўнікі крымінальнага вышуку.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Для шчасця мала трэба: "нарката" і бохан хлеба

***Гады тры таму расіянін В., знаходзячыся на волі, любіў "панюхаць" траўку, укалоцца "наркатой" і забыцца пра ўсё. Даспадобы хлопцу былі менавіта такія паводзіны. Тым больш, што ні да каго ён не чапляўся, прэтэнзій не прад'яўляў. І трэба ж здарыцца, што вярнуцца ў нармальнае жыццё яму вырашыла "дапамагчы" міліцыя. Гэты хлопец накіраваўся паразважаць у месцы, дзе "траўку" не так ужо і лёгка знайсці.***

Час падумаць быў. Але настальгія па вясёлых дзяньках мучыла. Лежачы на нарах у Омску, В. цвёрда вырашыў: выйду і "адцягнуся". Неўзабаве даведка аб вызваленні была на руках і, накіроўваючыся ў Калінінград, ён разжыўся 52 грамамі макавай саломкі, якую прыхаваў у бохане хлеба. Толькі гэтым яшчэ больш і прыцягнуў былы "зэк" увагу міліцыі на станцыі Гудагай.

Хутка новы суд. Як, аказваецца, мала трэба для шчасця.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Машына-забойца

***ВІЛЕЙКА. На двух навучэнцаў ПТВ, што ішлі па праезнай частцы, наехала машына.***

Адзін з траўмамі чэрапа шпіталізаваны, другі загінуў на месцы. Ідзе пошук машыны-забойцы і яе вадзіцеля.

*Аддзел інфармацыі.*

